

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№8 (жнівень), 2014

# Мяжа



**23 гады таму Беларусь стала незалежнай**

(старонка 14)

## ЗЬМЕСТ

## Суд адмовіў Алене Дубаносавай у абароне ў судзе прававым інспектарам прафсаюза РЭП Уладзімірам Малеем

У судовым паседжанні, якое адбылося 30 ліпеня ў судзе Лунінецкага раёна, хадайніцтва Алены Дубаносавай аб тым, каб яе інтарэсы абараняў прававы інспектар прафсаюза РЭП Уладзімір Малей, было адхілена. Прадстаўнік пракуратуры сказала, што Малея нельга дапускаць, паколькі на час інцыдэнту Дубаносава не з’яўлялася сябрам прафсаюзу. Суддзя падтрымаў вердыкт пракурорскага работніка. Алена Дубаносава папрасіла перанесці судовае паседжанне, паколькі ёй трэба заключыць дамову з адвакатам.

Суд перанесены на 10 жніўня.

Уладзімір Малей лічыць сваё адхіленне ад абароны цалкам незаконным. Па яго меркаванні, гэта супярэчыць арт. 72 Грамадзянска-працэсуальнага кодэкса РБ, калі інтарэсы сябраў грамадскіх аб’яднанняў могуць прадстаўляць кіраўнікі арганізацый або іх прадстаўнікі. Алена Дубаносава яшчэ да падачы заявы ў суд стала сябрам прафсаюза РЭП, таму мае права на такую абарону.

Алена Дубаносава – жонка грамадскага актывіста Леаніда Дубаносава з Мікашэвічаў, якога звольнілі з “Граніта” з-за нязгоды выйсці з незалежнага прафсаюза. Яна праз суд хоча спагнаць з гаспадара крамы “Прыгажуня” невыплачаны са снежня заробак, а таксама змяніць фармулёўку звальнення з-за недаверу на згоду бакоў.

http://spring96.org/be/news/72302

## Брэст: ад арганізатараў пікета, што адбыўся яшчэ 1 чэрвеня, патрабуюць даплаты за дзяжурства медычнага транспарту

Акцыя, прымеркаваная да Міжнароднага дня абароны дзяцей, была дазволеная ўладамі і адбылася на пляцоўцы каля сцэны ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, які рашэннем Брэсцкага гарвыканкама вызначаны як месца для правядзення масавых мерапрыемстваў.

Як паведаміла арганізатар пікета, намеснік старшыні прафсаюза працоўных радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) і кіраўнік яго брэсцкага рэгіянальнага аддзялення Зінаіда Міхнюк, напярэдадні акцыі паводле дамовы з адміністрацыяй парку былі аплочаныя паслугі коштам 254 тысячы рублёў. Акрамя таго, адапаведная дамова была заключаная і з фііліяй станцыі хуткай медычнай дапамогі, што абыйшлося ініцыятарам пікета ў 96300 рублёў.

Аднак зараз высвятляецца, што для дзяжурства падчас правядзення акцыі выкарыстоўваўся транспарт, які належыць іншай арганізацыі – аўтабазе медычных установаў. Эканаміст гэтай арганізацыі патэлефанавала Зінаідзе Міхнюк і паведаміла пра неабходнасць кампенсацаць выдаткі з разліку 75300 рублеў за гадзіну дзяжурства. Кіраўнік аддзялення прафсаюзу РЭП лічыць абсурднымі патрабаванні аб новай аплаце і параіла медычным установам самостойна разабрацца ў гэтай сітуацыі паміж сабой.

Зінаіда Міхнюк таксама звяртае ўвагу на яшчэ адну акалічнасць, звязаную з арганізацыяй у Брэсце падобных акцый. “10 снежня мінулага года мы ладзілі пікет з нагоды Дня прыяцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, і тады не патрабавалася ні дамова з міліцыяй, ні з медычнымі ўстановамі: на станцыі хуткай дапамогі нам паведамілі, што дамова будзе заключана ў выпадку, калі сапраўды спатрэбіцца дапамога медыкаў, - распавяла Міхнюк. – А вось за дамову з адміністрацыяй парка, якая адказвае за прыборку тэрыторыі, у снежні мы мусілі заплаціць 70 тысяч рублёў, а сёлета ў чэрвені ўжо 254 тысячы. Што такое рапатам адбылося за апошнія сем месяцаў, калі паслугі па добраўпадкаванні невялічкай пляцоўкі павялічыліся больш чым у тры разы? Тым больш, што мы гатовыя бы самастойна прыбраць тэрыторыю пасля пікета, калі б у гэтым была неабходнасць”.

http://spring96.org/be/news/72326

## У Брэсце спрасцілася працэдура заяўкі на правядзенне масавага мерапрыемства

Аднак зладзіць пікет, лозунгі якога не даспадобы ўладзе, прасцей не стала.



Сёлета кіраўніцтва горада ўнесла змены ў працэдуру запыту на правядзенне масавага мерапрыемства. Брэсцкія праваабаронцы лічаць гэта дасягненне вынікам сваіх абскарджанняў цягам 2013 года. Па словах праваабаронцы Уладзіміра Вялічкіна, зараз у Брэсце не абавязкова заключаць дамову з міліцыяй, калі арганізатары абавязуюцца самастойна забяспечыць правапарадак.

**Вялічкін**: “Іншая справа, што засталіся яшчэ 2 установы, з якімі ахвотныя правесці мерапрыемства мусяць заключыць дамову ў Брэсце. Гэта – цэнтральная бальніца “хуткай дапамогі” і, калі справа тычыцца Парку Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, з дырэкцыяй Парку культуры і адпачынку”.

Праваабаронца кажа, што працэдура запыту сапраўды спрасцілася, аднак чыноўнікі ўсё роўна знаходзяць сродкі, каб не дазваляць непажаданыя акцыі. Пры падачы заяўкі на пікет, мэта якога прыцягнуць увагу да палітвязняў у Беларусі, Уладзімір Вялічкін сутыкнуўся з абсурднай сітуацыяй.

"Я выканаў патрабаванні беларускага заканадаўства: падаў заяўку, далучыў дамову з медыкамі, але не змог далучыць дамову са спадаром Шыгельскім - дырэктарам парку. Ён адмовіўся гэта рабіць і напісаў на маёй заяве: "Падрыхтаваць дамову пасля дазволу на яго правядзенне гарадскім выканаўчым камітэтам", - расказвае праваабаронца.

Адказ дырэктара парку супярэчыць працэдуры афармлення заяўкі на пікет. Каб атрымаць на яго дазвол у гарвыканкаме, спачатку трэба заключыць усе адпаведныя дамовы, а не наадварот.

Пікет у падтрымку беларускіх палітвязняў запланаваны на 10 жніўня. Ці атрымалі дазвол на яго правядзенне, праваабаронцы даведаюцца 5 жніўня. Адсутнасць дамовы з кіраўніцтвам парку можа стаць падставай, каб пікет не дазволіць.

http://euroradio.fm/u-bresce-sprascilasya-pracedura-zayauki-na-pravyadzenne-masavaga-merapryemstva

## Бяроза: лісты салідарнасці з палітвязнямі



Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты даслалі лісты ўсім сямі палітвязням для таго, каб выказаць сваю салідарнасць і падтрымку. Праваабаронца Сяржук Русецкі адзначае:

- Бярозаўскія праваабаронцы ў чарговы раз вырашылі падтрымаць палітвязняў вестачкай з волі, каб хоць трошкі прыўзняць іх настрой і давесці, што іх чакае на волі шмат людзей.

Па словах Русецкага, у бярозаўскіх праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў такія лісты падтрымкі і святочныя віншаванні сталі ўжо традыцыяй.

http://spring96.org/be/news/72377

## У Брэсце таксама забаранілі пікет у падтрымку палітычных вязняў

У адрозненні ад іншых гарадоў Беларусі, гэтую акцыю планавалася правесці 10 жніўня, аднак у Брэсцкім гарвыканкаме адмовілі ў правядзенні пікета, спаслаўшыся на святкаванне Дня будаўніка.

Як паведаміў праваабаронца Уладзімір Вялічкін, які накіраваў заяўку на пікет ў гарвыканкам, месцам правядзення акцыі была пазначана пляцоўка ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, якая мясцовымі уладамі вызначана ў якасці месца, дзе можна ладзіць масавыя мерапрыемствы.

Аднак у атрыманым з гарвыканкама адказе гаворыцца, што пікет не дазволены, бо ў вызначаны час пляцоўка ўжо занятая “іншым мерапрыемствам”. Высветлілася, што замінаюць правядзенню пікета 10 жніўня святкаванні ў парку з нагоды Дня будаўніка. Дарэчы, па словах праваабаронцы, ён ужо паспеў заключыць дамову з установай хуткай медычнай дапамогі, а вось адміністрацыя парку рабіць гэта адмовілася.

“Зараз я буду дамагацца ад гарвыканкама, каб была магчымасць азнаёміцца з планам мерапрыемстваў на бягучы год, бо гэта ўжо не першы выпадак, калі пікеты забараняюцца са спасылкай на тое, што месца для правядзення акцый ужо занята пад іншыя мерапрыемствы”, - распавёў **Уладзімір Вялічкін**.

http://spring96.org/be/news/72430

## Уладзімір Вялічкін папрасіў прадставіць план мерапрыемстваў

Берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін папрасіў мясцовыя ўлады прадставіць планы мерапрыемстваў на гэты год. Адпаведны зварот ён накіраваў у Берасцейскі гарадскі выканаўчы камітэт. Падставай для напісання ліста сталі адмовы ў правядзенні пікетаў і шэсцяў прастаўнікам дэмакратычнай супольнасці Берасця. Прычына – нібыта правядзенне загадзя запланаваных у тых жа месцах уладамі мерапрыемстваў, – распавёў праваабаронца:

- У сваім адказе аб адмове ў мерапрыемстве гарвыканкам спаслаўся на рашэнне Берасцейскага гарвыканкама ад 18.12. 2013 года за №2675. У гэтым рашэнні як раз згадваецца менавіта план мерапрыемстваў на 2014 год. Вось таму я вырашыў пацікавіцца гэтым планам мерапрыемстваў і напісаў адпаведную заяву.

Калі планы мерапрыемстваў гарадскіх уладаў будуць у адкрытым доступе, тады будзем адразу ведаць ці варта падаваць заяўку на

правядзенне таго ці іншага мерапрыемства, каб не рабіць дарэмную працу, – дадаў Уладзімір Вялічкін.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-vyalichkin-paprasiu-pradsta/

## Суд палічыў, што сябра незалежнага прафсаюзу не можа разлічваць на выплаты



Суд Ленінскага раёна Брэста не задаволіў іск Уладзіміра Андрашчука. Былы рабочы ААТ "Савушкін прадукт" Уладзімір Андрашчук з Брэста звярнуўся ў суд, каб панудзіць кіраўніцтва прадпрыемства выплаціць яму 15 мільёнаў рублёў, якія выплочваюцца па калектыўнай дамове пры выхадзе на пенсію. Для выплаты непасрэдны кіраўнік Андрашчука павінен быў хадайнічаць перад генеральным дырэктарам ААТ "Савушкін прадукт", і той вырашае, даць гэтую суму, ці не.

Непасрэдны кіраўнік не стаў хадайнічаць, паколькі вырашыў, што Андрашчук не мае ніякіх адносін да калектыўнай дамовы, паколькі не з'яўляецца сябрам дзяржаўнага прафсаюза. Хаця стаж бездакорнай работы Андрашчука на прадпрыемстве 39 гадоў.

Суд спаслаўся менавіта на гэты пункт дамовы: непасрэдны кіраўнік не хадайнічаў за работніка. Але суд прызнаў, што Андрашчук далучаны да калектыўнай дамовы, паколькі згодна з арт. 365 ч.2 Працоўнага кодэкса, калі работнік – не сябра афіцынага прафсаюза – напісаў заяву аб далучэнні да калектыўнай дамовы, то ён становіцца ўдзельнікам калектыўнай дамовы.

Паводле прававога інспектара прафсаюза РЭП Уладзіміра Малея, справа Уладзіміра Андрашчука паказала, што дзяржаўны прафсаюз на баку кіраўніцтва і аддаў яму ўсе паўнамоцтвы ў вырашэнні пытанняў рабочых. Па-другое, рабочыя не асэнсоўваюць калектыўную дамову, не абмяркоўваюць яе на агульным сходзе.

Можна сказаць, абыякава ставяцца да вырашэння сваіх праблем, не патрабуюць, каб калектыўная дамова вісела ў публічным месцы.

http://spring96.org/be/news/72446

## Бярозаўскія праваабаронцы дамагаюцца змены рашэння аб масавых мерапрыемствах

Праваабаронцы з Бярозы Тамара Шчапёткіна і Сяржук Русецкі амаль год змагаюцца з райвыканкамам за магчымасць праводзіць пікеты. Адной з перашкодаў з'яўляецца рашэнне райвыканкама ад 2009 г. пра правядзенне масавых мерапрыемстваў, якое не прыведзена ў адпаведнасць з пастановай Савета міністраў № 207, згодна з якім пасля падачы заявы на масавае мерапрыемства райвыканкам на працягу сутак звяртаецца ў міліцыю для ўзгаднення пытанняў па ахове парадку на масавым мерапрыемстве.

У красавіку бягучага года праваабаронцы звярталіся ў Міністэрства юстыцыі і Брэсцкае абласноеўпраўленне ўнутраных спраў, каб гэты суб'екты абавязалі Брозаўскі райвыканкам унесці неабходныя змены ў сваё рашэнне. З атрыманых адказаў здавалася, што праблема будзе вырашана. Як паведамілі з Міністэрства юстыцыі за подпісам першага намесніка міністра А.У. Білейчыка і з Брэсцкай абласной управы ўнутраных спраў за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення В.П.Угляніцы, рашэнне райвыканкама павінна быць выпраўлена згодна пастановы Саўміна.

Але падчас падрыхтоўкі праваабаронцаў да пікету на 27 ліпеня высветлілася, што зменаў у рашэнні райвыканкама няма. З міліцыі яны зноў атрымалі адказ: мы не можам скласці з вамі дамовы, да нас павінен звярнуцца, згодна пастановы Саўміна №207, райвыканкам.

Пасля гэтага праваабаронцы напісалі заявы адразу ў 2 інстанцыі: Брэсцкі аблвыканкам і Бярозаўскі райвыканкам, каб у рэшце рэшт райвыканкам змяніў сваё рашэнне адпаведна пастановы Савета міністраў.

Праваабаронцы спадзяюцца, што аблвыканкам – непасрэднае кіраўніцтва райвыканкама,дапаможа ў вырашэнні гэтага пытання, якое сам райвыканкам амаль год ужо вырашыць не можа.

http://spring96.org/be/news/72484

## Брэсцкіх чыноўнікаў пракуратура папярэджвае за парушэнне закона аб зваротах грамадзян

Брэсцкія прадпрыемствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі папаранейшаму ігнаруюць заканадаўства аб зваротах грамадзян. Да такой высновы прыйшлі ўжо не толькі людзі, якія скардзяцца на працу ЖКГ, але і пракуратура Брэсцкай вобласці, што праводзіла праверку выканання згаданага заканадаўства.

Нягледзячы на тое, што праверка ладзілася паўторна, у арганізацыях, якія ўваходзяць у сістэму Міністэрства жыллёвай гаспадаркі, пракуратура зноў знайшла шматлікія факты парушэнняў заканадаўства аб зваротах грамадзян. Паводле матэрыялаў праверак 10 службовых асоб абласнога ўпраўлення ЖКГ і тэрытарыяльных арганізацый прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

Увогуле ж, паводле дадзеных пракурорскага нагляду, за першыя шэсць месяцаў 2014 года праведзена 50 адмысловых праверак на гэты конт (летась за аналагічны перыяд было 32). У выніку парушэння патрабаванняў заканадаўства аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб выяўлены таксама ў ТАА “Научпром” (Брэст), Ганцавіцкім райвыканкаме, ААТ “За мір” Брэсцкага раёна, КУВП "Березарайагросервис", ГУССП "Бярозаўская СПКМК-22", СВК "Гортоль" Івацэвіцкага раёна, ГУП "Кобрынскае ПМС", Лунінецкім раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, КУП "Лунінецкі райУКС".

У пракуратуры Брэсцкай вобласці таксама паведамілі, што па выніках маніторынгу гэтых праверак адменена 2 незаконных акты, 47 службовых асоб прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці, 5 - да адміністрацыйнай, а яшчэ 40 афіцыйна папярэджаны аб недапушчальнасці парушэння закона.

http://spring96.org/be/news/72479

## Людміла Дзенісенка: Пенсіі ваеннаслужачых не адпавядаюць закану

У Берасці абмеркавалі неабходнасць унясення зменаў “Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых”. Сябра абласнога аддзялення аб’яднання прапаршчыкаў і мічманаў, старшыня берасцейскай гарадской арганізацыі партыі левых „Справядлівы свет”

Людміла Дзенісенка сустрэлася з берасцейскімі дэпутатамі Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Са словаў актывісткі, узровень пенсій – не адпавядае беларускаму закону:

- Вырашыла звярнуцца са старшынём гэтага таварыства да дэпутатаў нашага парламента – да Валюшыцкага, Базанава і Багдановіч. Пытанне стаіць аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых. Закон аб пенсійным забеспячэнні гаворыць: што мінімальная пенсія ваенаслужачых не павінна быць меншай 150-адсоткавай мінімальнай пенсіі па ўзросту. У жыцці гэта не адбываецца. Вось, напрыклад, мая пенсія. 20 гадоў выслугі. Я атрымліваю 1 мільён 808 тыс. рублёў. Калі ўзяць гэты закон, то я павінна атрымліваць каля 2 мільёнаў 300 тысяч рублёў.

„То бок на практыцы ў нашай краіне не дзейнічаюць законы, менавіта таму мы звяртаемся да дэпутатаў з просьбай высветліць, як працуе гэты закон і прывесці яго ў норму,” – дадала палітык.

http://www.racyja.com/hramadstva/lyudmila-dzenisenka-pensii-vaenasluzh/

## У Бярозе плануюць пікет з нагоды юрыдычнага замацавання незалежнасці Беларусі

Бярозаўскія праваабаронцы падалі заяву на пікет, выканаўшы ўсе патрабаванні паводле рашэння райвыканкама. Адначасова з заявай падалі копіі дамоваў з ЖКГ, бальніцай і адказ з міліцыі, што да іх павінен звяртацца сам райвыканкам наконт аховы правапарадку на пікеце.

Пікет запланаваны на 25 жніўня. Мяркуемая колькасць удзельнікаў -- 10 чалавек у дазволеным уладамі месцы. Мэта пікету: адзначыць гістарычны момант, калі Дэкларацыя пра суверэнітэт БССР набыла статус канстытуцыйнага закону. Акрамя гэтага праваабаронцы хочуць выказаць пратэст супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Белаврусі і салідарнасць з палітычнымі зняволенымі.

Амаль год бярозаўскі райвыканкам называе розныя прычыны, каб не дазволіць праводзіць праваабаронцам пікеты. І амаль год праваабаронцы змагаюцца ў прававым полі, каб дамагчыся выканання сваіх канстытуцыйных правоў.

http://spring96.org/be/news/72508

## Брэст: экс-кандыдат праз суд хоча атрымаць спіс тых, хто прагаласаваў па месцы жыхарства



Старшыня брэсцкай арганізацыі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка спрабуе даведацца, хто насамрэч з выбаршчыкаў на ўчастку № 44 па выбарчай акрузе № 13, дзе яна балатавалася ў Брэсцкі гарадскі савет дэпутатаў сёлета ў сакавіку, галасаваў па месцы жыхарства.

Паводле слоў Людмілы Дзенісенкі, з пратаколу гэтай участковай камісіі вынікае, што 23 сакавіка па месцы жыхарства прагаласавала 168 чалавек. Прадстаўніца партыі “Справядлівы свет” лічыць, што за некалькі гадзін абыйсці такую колькасць дамоў (на тэрыторыі выбарчага ўчастку знаходзіцца шмат прыватных жылых забудоў) немагчыма, і хоча праверыць, ці сапраўды згаданыя 168 чалавек галасавалі па месцы жыхарства.

“Раней я беспаспяхова звярталася ў Брэсцкую абласную і Брэсцкую гарадскую выбарчыя камісіі з просьбай прадаставіць спіс тых, хто прагаласаваў домана гэтым ўчастку, а таксама ў пракуратуру Брэста, каб там правялі праверку і абавязалі адпаведныя структуры даць такі спіс”, - распавяла Дзенісенка. З пракуратуры адказалі, што спіс выбаршчыкаў, што галасавалі па месцы жыхарства, знаходзіцца ў адміністрацыі Ленінскага раёна Брэста, аднак зварот туды былога кандыдата ў дэпутаты быў безвыніковым.

15 жніўня Людміла Дзенісенка падала скаргу ў суд Ленінскага раёна Брэста і патрабуе прызнаць адмовы выбаркамаў неправамернымі, бо яны парушаюць частку 4 артыкула 49-1 Выбарчага кодэкса, у адпаведнасці з якой заяўнік мае права знаёміцца з матэрыяламі, звязанымі з разглядам яго зваротаў, а таксама абавязаць адміністрацыю Ленінскага раёна Брэста падаць

спіс выбаршчыкаў на ўчастку № 44, хто прагаласаваў па месцы жыхарства, каб мець магчымасць азнаёміцца і зрабіць копіі. Акрамя таго, у свай скарзе Дзенісенка паведамляе, што, на яе думку, службовымі асобамі парушаны канстытуцыйны прынцып адкрытасці і галоснасці выбараў. "Чыноўнікі цягнуць час, каб схаваць магчымую фальсіфікацыю вынікаў выбараў на гэтым участку, паколькі спісы прагаласаваўшых выбаршчыкаў знішчаюцца праз шэсць месяцаў пасля правядзення выбараў", - дадае аўтар скаргі.

http://spring96.org/be/news/72600

## Мікалай Аўтуховіч абскарджвае дзеянні міліцыянта

Мікалай Аўтуховіч працягвае абскарджваць дзеянні ваўкавыскага міліцыянта, які не даваў яму дазволу на выезд у Менск на лячэнне. Былы палітычны вязень атрымаў адказ на сваю скаргу на імя раённага пракурора, які прызнаў дзеянні міліцыянта законнымі, і цяпер падае скаргу на імя пракурора Гарадзенскай вобласці. Нагадаем, што Аўтуховіч знаходзіцца пад прэвентыўным наглядам, і каб выехаць з Ваўкавыску павінен мець дазвол органа ўнутраных спраў. Ён лічыць, што міліцыянт неабгрунтавана не даваў яму гэтага дазволу:

- Кіраўнік міліцыі не мае права вырашаць лёс чалавека, якому патрэбнае лячэнне: ён не доктар, ён не спецыяліст у гэтай галіне. Чаму ён вырашае дазволіць мне ехаць ці не, калі было накіраванне лекара? І нават не адно. Ён спасылаўся на тое, што я мушу ісці ў нашую паліклініку ці бальніцу і ўзяць паперу, што мне не могуць аказаць у Ваўкавыску гэтую дапамогу.

У выніку Мікалай Аўтуховіч трапіў на лячэнне ў Менск, калі напісаў заяву на часовае там пражыванне. Аднак кажа, што не збіраецца пакідаць гэтую справу і будзе намагацца справядлівага пакарання для міліцыянта.

Таксама ў пятніцу, 22 жніўня, былы палітычны вязень накіроўваецца ў Менск у Вярхоўны суд у справе абскарджвання тых спагнанняў, якія на яго накладаліся яшчэ ў час знаходжання ў Гарадзенскай турме.

http://www.racyja.com/hramadstva/mikalaj-autukhovich-abskardzhvae-dzeyan/

## 23 гады таму Беларусь стала незалежнай

25 жніўня 1991 адбылося гістарычнае паседжанне Вярхоўнага Савета БССР.

На ім быў прыняты закон «Аб наданні статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі Вярхоўнага Савету БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі» і пастанова «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР».

Тым самым фактычна была абвешчаная незалежнасць БССР.

Гістарычная сесія адбывалася на трэці дзень пасля краху путчу ГКЧП і праходзіла досыць вірліва.

24 жніўня на будучай плошчы Незалежнасці, якая тады яшчэ называлася плошчай Леніна, перад будынкам, у якім праходзіла пасяджэнне Вярхоўнага Савета, сабраліся дзесяткі тысяч чалавек.

Дэпутатамі апазіцыі Валянцінам Голубевым, Зянонам Пазняком і Галінай Сямдзянавай у залу, дзе ішла сесія, быў унесены бел-чырвона-белы сцяг.

За дзень да гэтай падзеі, 24 жніўня, старшыня Вярхоўнага Савету БССР Мікалай Дземянцей падаў у адстаўку, першым кіраўніком незалежнай Беларусі стаў Станіслаў Шушкевіч, які дагэтуль займаў пасаду намесніка старшыні.

Праз месяц, 19 верасня 1991 года, сесія Вярхоўнага Савета прыняла пастанову называць БССР надалей Рэспубліка Беларусь, у скарочаных назвах - Беларусь.

Тады ж была прынятая пастанова Вярхоўнага Савета аб дзяржаўных сімвалах, якімі сталі бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

http://charter97.org/be/news/2014/8/25/112558/

## Бярозаўскім праваабаронцам адмовілі ў пікеце

22 жніўня бярозаўскія праваабаронцы атрымалі адмову ў правядзенні пікета, які быў запланаваны на 25 жніўня.Мэтай пікета былоадзначэнне ўгодкаў надання Дэкларацыі незалежнасці БССР статусу канстытуцыйнага закона, а таксама выказванне пратэсту супраць размяшчэння расейскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі і

патрабаванне вызвалення палітвязняў.

Адмова падпісана намеснікам старшыні райвыканкама Яўгенам Тарасюком. Чыноўнік прычынай адмовы называе адсутнасць копіі дамовы з міліцыяй, у той час як да міліцыі наконт абмеркавання абслугоўвання пікету, згодна Пастановы Савета міністраў № 207, павінен звярнуцца сам райвыканкам.

Ведаючы незаконнасць спасылкі, чыноўнік дадае яшчэ адну прычыну: маўляў, на стадыёне адбудуцца спартовыя мерапрыемствы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, на якіх прадугледжваецца наяўнасць гледачоў.

Па словах аднаго з заяўнікаў пікету Сержука Русецкага, другую прычыну райвыканкам прыдумаў для падстрахоўкі, калі ў судзе не спрацуе першая. А там разбірайся, былі тыя мерапремствы ці не былі. Бо калі мелі б намер даць дазвол на пікет, то прапанавалі б іншае дазволенае месца – стадыён у Паўночным гарадку.

Адмова ў пікеце будзе абскарджана ў судзе.

http://spring96.org/be/news/72713

## На Берасцейшчыне занепакоеныя наступствамі чумы свіней

Прадстаўнік міжнароднага экалагічнага грамадскага аб’яднання “Зялёны фронт” Аляксей Коўтун накіраваў зварот у Дэпартамент ветэрынарнага і харчовага нагляду і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

У лісце звяртаецца ўвага на тое, што на беларуска-польскай мяжы выяўлены ўжо трынаццаты выпадак чумы ў дзікоў.

Не выключана, што з тэрыторыі Польшчы яны маглі прайсці на беларускую тэрыторыю, – адзначыў Аляксей Коўтун:

- Беларускія ветэрынарныя службы маўчаць, хаця на інтэрнэт-старонцы ветэрынарнай службы паведамляецца, што выпадкі захворвання зафіксаваныя ў Расеі і Польшчы, ёсць просьбы па недапушчэнню мяса, кармоў, звязаных з заражанымі свіннямі на тэрыторыю Беларусі. Па іх дадзеных Беларусь з’яўляецца белай выспай сярод краінаў, дзе зафіксаваныя ўспышкі. А ў нас нияк дзіўна – няма.

У адпаведнасці з 34-ым артыкулам Канстытуцыі Беларусі актывіст просіць даць адказы на шэраг пытанняў. Сярод іх, якія меры прынятыя ў сувязі з інфармацыяй пра чуму свіней, ці ёсць план сумесны з польскімі ветэрынарнымі службамі па нераспаўсюду віруса на тэрыторыю Беларусі, а таксама колькі выпадкаў заражэння чумой выяўлена за 2014 год на тэрыторыі Беларусі.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastseshchyne-zanepakoenyya-ekalag/

## У Берасці прэзентуюць цэнтр па працы з прыхільнікамі дэмакратычных пераменаў

У Берасці пройдзе сустрэча з лідарамі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі і партыі левых “Справядлівы свет”. Анатоль Лябедзька і Сяргей Калякін у рамках кааліцыі “Талака” 7 жніўня будуць прэзентаваць адкрыццё цэнтраў па працы з прыхільнікамі дэмакратычных пераменаў на Берасцейшчыне.

„Падчас мерапрыемства абмяркуем дасягненні і планы палітычных партыяў на бліжэйшы перыяд”, – кажа адзін з арганізатараў сустрэчы Уладзімір Вуек:

- Адбудзецца паседжанне грамадзянскага альянсу “Талака” па Берасцейскай вобласці, на якім мы зробім справаздачу за выкананую працу, асаблівую ўвагу нададзім той працы, якую выканалі за апошнія тры месяцы. Абмяркуем найбольш вострыя пытанні і будзем планаваць далейшую нашую дзейнасць, у тым ліку асаблівую ўвагу нададзім працэдуры вызначэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары.

Да ўдзелу ў сустрэчы арганізатары запрашаюць усіх прыхільнікаў пераменаў у Беларусі.

http://www.racyja.com/palityka/u-berastsi-prezentuyuts-tsentr-pa-pratsy-z/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»